

№ 11 (124)
Сакавік 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





Вясна ў старым парку

## Аграгарадкі: вёскі ці не?

Такое пытанне ўзнікае ў многіх вяскоўцаў – найперш, зразумела, у тых, хто мае пэўныя ільготы. Як сцвярджаюць некаторыя юрысты, цяпер у розных інстанцыях выпрацоўваецца *палажэнне, каб будучыя аграгарадкі былі прыраўняныя да* вёсак і пасёлкаў. Гэта значыць, што іхнія насельнікі могуць захаваць статус жыхароў сельскай мясцовасці, а з ім і пэўныя ільготы, прадугледжаныя сённяшнім заканадаўствам. А чаму не мястэчка?

## Гасцініца на вадзе

Як стала вядома, краявіды нашых Дняпра і Заходняй Дзвіны неўзабаве могуць у некаторым сэнсе і змяніцца: на іх водах з'явіцца гасцініца. Найперш для тых, хто захоча праплыць пэўны адрэзак славутага шляху «з варагаў у грэкі». Спачатку па заказе Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь меліся пабудаваць для турыстаў зручны гатэль тыпу «міні-лайнера», пасля абралі іншы варыянт – гатэль у выглядзе старажытнай ладдзі, дзе будуць як старажытнаславянскія, так і варажскія матывы, домікі з гасцінічнымі нумарамі, бар-буфет і лазня. Мяркуецца, што гэтая баржа будзе даўжынёй у 74 м.

## На тым тыдні...

• На пасяджэнні Выканкама грамадскага аб'яднання «Беларускі фонд культуры» 16 сакавіка 2006 г. разглядана пытанне аб удзеле БФК у традыцыйным IV Фестывалі фальклорнага мастацтва «Берагіня», які адбудзецца ў пасёлку Акцябрскі (Гомельская вобласць) 1–4 чэрвеня 2006 г.

Заснавальнікамі фестывалю таксама з'яўляюцца Міністэрствы культуры і адукацыі Беларусі, Гомельскі аблвыканкам і Акцябрскі райвыканкам. Перад заснавальнікамі і шматлікімі фальклорнымі калектывамі краіны, якія збяруцца на фестывалі, пастаўлены наступныя мэты і задачы:

– прыцягненне ўвагі грамадскасці да праблем выхавання падрастаючага пакалення сродкамі традыцыйнага народнага мастацтва;

– выяўленне і вяртанне ў практыку выхаваўчай работы разнастайных праяў аўтэнтычнага фальклору;

– стымуляванне і падтрымка дзіцячай і маладзёжнай фальклорнай творчасці і інш.

## «Брама неўміручасці»

Так называецца нядаўна адкрытая ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры выстава, прысвечаная 110-й гадавіне з дня нараджэння Кандрата Крапівы. На стэндах – асабістыя кнігі, дакументы і асобныя рэчы народнага пісьменніка Беларусі, а таксама шматлікія зборнікі паэзіі, прозы і драматургіі іншых пісьменнікаў, якія ў свой час з вялікаю павагай падпісалі і падарылі іх Кандрату Кандратавічу.

Літаратурна-мастацкую вечарыну пачаў фальклорны народны ансамбль Белдзяржуніверсітэта «Тутэйшая шляхта». Яго кіраўнік, зямляк К. Крапівы па Уздзеншчыне, А. Махнач і ягоныя калегі настроілі прысутных на цёплую сустрэчу беларускім словам – байкамі славутага майстра гэтага жанру ў беларускай літаратуры, народнымі песнямі. Затым вядучая, супрацоўніца музея В. Гулева адзначыла вялікі ўклад К. Крапівы не толькі ў літаратуру. Яе думкі развіў даследчык драматургіі, аўтар кнігі пра гэты жанр у яго творчасці А. Сабалеўскі, зазначыўшы, што К. Крапіва не проста даволі доўга жыў (амаль 95 гадоў), але і пражыў некалькі жыццяў – як чалавек, паэт, драматург, вучоны-мовазнавец, перакладчык, грамадскі дзеяч. Усюды яго ўклад велізарны. Пісьменніца, зямлячка К. Крапівы Л. Арабей падкрэсліла, што творчасць яго па-сапраўднаму народная, што яе трэба вывучаць па-новаму і ўсё лепшае ў ёй мець за нацыянальны гонар. Тым больш, што чалавек працягвае жыць да таго часу, пакуль яго помняць. Драматург, былы супрацоўнік Беларускай энцыклапедыі А. Петрашкевіч расказаў пра цікавыя моманты з таго часу, калі К. Крапіва дапамагаў ім у тэрміналагічнай камісіі. У прыватнасці, да выдання першай энцыклапедыі было падключана каля 6 тысяч аўтараў, патрэбна было мець пад рукамі не менш 40 тысяч самых розных навуковых беларускамоўных тэрмінаў. Калі запыталі ў патрыярха, ці будзе столькі, той запэўніў: наша мова такая багатая, што яна ў стане забяспечыць і больш. Паэт-гумарыст П. Саковіч запыніў увагу прысутных на Крапіве-байкапісцу і на тым часе, калі ён разам з аднадумцамі ствараў часопіс «Вожык» (цяпер у выданні для лепшых гумарыстычных і сатырычных твораў ёсць прэмія майстра).

Пасля прыязную атмасферу на вечары ўмацавалі родныя К. Крапівы, якія з цеплынёй гаварылі пра яго не толькі як пра пісьменніка і вучонага, але і як чалавека і сямейніка.

*Наш кар.*



*«Добра быць у дарозе, якую сам сабе выбіраеш».*

*Якуб Колас*

## Даследаванні музейцаў



***3 сакавіка 2006 года ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася выстава «Захаванне і вывучэнне этнаграфічнай спадчыны супрацоўнікамі Беларускага Дзяржаўнага Музея ў 1920-я гады». Гэта трэцяя выстава доўгатэрміновага праекта «У пошуках страчанага», які прысвечаны гісторыі музея. Вось што паведамілі нам музейныя работнікі, якія наладжвалі гэтую унікальную выставу.***

«Мы звяртаемся да эпохі 1920-х гадоў, калі музей меў назву «Беларускі Дзяржаўны Музей» (БДМ). Яго навуковымі супрацоўнікамі ў той перыяд былі выдатныя гісторыкі, археолагі, мастакі Беларусі: Вацлаў Ластоўскі, Аляксандр Ляўданскі, Міхаіл Філіповіч, Янкель Кругер.

БДМ валодаў каштоўнымі, вельмі разнастайнымі этнаграфічнымі зборамі. Яны выклікалі цікавасць даследчыкаў, хутка папаўняліся, а экспазіцыя аддзела этнаграфіі была найбуйнейшай у музеі. Асноўная частка этнаграфічных помнікаў XIX – першай паловы XX стст., прадстаўленых на выставе, паступіла ў нашы фонды менавіта ў 20-я гады мінулага стагоддзя. Асаблівую ўвагу прыцягвае унікальная калекцыя драўляных коўшыкаў – гонар этнаграфічнай калекцыі Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі і сёння. Галоўнай крыніцай паступленняў у музейныя калекцыі былі навуковыя экспедыцыі, якія БДМ ладзіў разам з Інстытутам беларускай культуры. Яны папаўнялі зборы вельмі каштоўнымі этнаграфічнымі помнікамі, частка з якіх прадстаўлена на выставе.

Атмасферу этнаграфічных экспедыцый таго часу перадаюць творы беларускага фотамайстра Л. Дашкевіча, які браў удзел у экспедыцыях 1923 года.

Камплектаванню этнаграфічных калекцый спрыяў краязнаўчы рух 1920-х гадоў. Вывучэнне традыцыйных рамёстваў і промыслаў стала прыярытэтным напрамкам у беларускай этнаграфіі таго часу, што адбілася на характары этнаграфічнага матэрыялу, які паступаў у фонды музея. Гэту асаблівасць музейнага жыцця 1920-х гадоў мы адзначылі комплексамі, якія прысвечаны некаторым традыцыйным для Беларусі рамёствам».

На выставе прадстаўлены мастацкія творы 1920-х гадоў вядомых беларускіх мастакоў М. Філіповіча, Я. Кругера, М. Эндэ з фондаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.

Поруч з інфармацыяй аб збіральніцкай і даследчай працы музейцаў, выстава звяртаецца да далёкага мінулага беларускага народа. Прадметы традыцыйнага быту ўтрымліваюць страчаную ў часе інфармацыю аб светаўспрыманні, жыцці нашых продкаў.

Этнаграфічныя помнікі, мастацкія творы, архіўныя крыніцы, арыгінальныя фатаграфіі шматбакова раскрываюць культурнае аблічча Беларусі ў дваццатыя гады мінулага стагоддзя.

У сёлетняй выставе праекта «У пошуках страчанага» прымаюць удзел Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь, Цэнтральны навуковы архіў Акадэміі навук Беларусі.

*Наш кар.*



*Падчас адкрыцця выставы*

## Сучасныя беларускія краязнаўцы

### Матэрыялы да слоўніка

**Рогач Анатоль Валянцінавіч** (н. 01.06.1947, в. Каралеўцы Вілейскага р-на Мінскай вобл.), начальнік электрычных сетак Вілейскага раёна. Скончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі (1972). Краязнаўствам зацікавіўся ў 1970-я, а з 1988 г. заняўся ім больш грунтоўна. Вывучае гісторыю Вілейшчыны, займаецца праблемамі краязнаўства Маркаўскага староства, вёскі Каралеўцы (раней Іжа), ракі Нарачанкі, гісторыі зніклых вёсак і падзеямі Першай сусветнай вайны, нацыянальна-вызваленчых паўстанняў. Аўтар 30 артыкулаў у кнізе «Память. Вілейскі раён», артыкулаў у газетах «Шлях перамогі» (Вілейка), «Рэгіянальная газета» (Маладзечна), «Советская Белоруссия», «Народная газета», «Белорусская нива», у краязнаўчых зборніках і інш. Мае ганаровыя званні «Выдатнік энергетыкі Беларускай энергасістэмы» (1999), «Ганаровы работнік Беларускай энергасістэмы» (2005).

Аўтар кнігі аб гісторыі ўзнікнення і станаўлення энергетыкі Маладзечанскага раёна «С теплом и светом к людям» (2004).

**Рублеўская (Шніп) Людміла Іванаўна** (н. 05.07.1965, г. Мінск). Скончыла БДУ (1994). Працавала ў «Нашым слове» (1994), рэдактарам аддзела крытыкі газеты «Літаратура і мастацтва» (1995–2003), з 2003 г. – літаратурны аглядальнік газеты «Советская Белоруссия». Краязнаўствам пачала займацца падчас працы ў «Нашым слове». Сваім настаўнікам лічыць В. Скалабана. Вывучае гісторыю беларускай літаратуры, гісторыю Мінска. Аўтар шэрага артыкулаў па гісторыі літаратуры ў газеце «Советская Белоруссия», частка з якіх у сааўтарстве з В. Скалабанам.

Тв.: Я – мінчанін. Мн., 2005.

**Руль Уладзімір Валяр'янавіч** (н. 03.09.1953, в. Матылі Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл.), прадпрымальнік. Скончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі (1975), Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага (1992). Сваім настаўнікам лічыць А. Майсяёнка. Займаецца стварэннем у Воранаўскім раёне гісторыка-мемарыяльнага цэнтра імя Остык-Нарбутаў і В. Шукевіча.



*А. Рогач*



*Л. Рублеўская*



*Ул. Руль*

## «Калі... яна, зямля старая, новай стане»

### Развагі паводле кнігі Міколы Маляўкі «Старая зямля»

***Бадай, кожны ведае пра санет як пра чатырнаццацірадовік з вызначанай рыфмоўкай. Можна згадаць і пра вянок (і вянок вянкоў) санетаў. Мікола Маляўка даў наступны падзагаловак сваёй кнізе «Старая зямля» (2005): «Санеты, спавітыя дзеразой». Менавіта з гэтай расліны ў часы маленства і юнацтва паэта плялі вянкі для разнастайных урачыстасцяў. І з класічных форм – санетаў (акрамя вершаў «Коласаў шлях» і «Мікалаеўскі вагон») складаецца своеасаблівы «вянок» дзеля ўшанавання, увекавечвання Мікалаеўшчыны – роднай вёскі паэта. Ці ж толькі малой радзімай яна для яго з'яўляецца? Гэта, па сутнасці, тое маловялікае, што называецца нацыянальным вобразам свету. Таму лёс адной вёскі, прасочаны ў «Старой зямлі», успрымаецца як лёс Беларусі.***

У зборніку супрацьпастаўлены два часавыя пласты – мінуўшчына і сучаснасць. Так, як ні сумна і горка, мінулі для Мікалаеўшчыны найлепшыя часіны. Цесляры, кавалі, хлебаробы, асветнікі... Іх ужо меншае.

З побытам і светам працоўных клопатаў былі здаўна звязаны міфалагічныя ўяўленні беларусаў-мікалаеўцаў. Калісьці, гаворыць паэт, адзін жыхар капаў студні, крыніцы, тым самым пранікаючы ў іншы сакральны свет. Пра русалак ён даведаўся ў дзяцінстве ад маці. Трэба заўважыць, мясціны, дзе прайшло юнацтва Міколы Маляўкі, багатыя на лекавыя расліны, сярод якіх святаяннік і... дзераза. З зёлкамі асацыююцца не замовы і праклёны, а глыбокая хрысціянская павага да расліннага свету. Іх неслі ў царкву для асвячэння. З развіццём навукі цяпер павінны лячыцца, быццам атрутай, таблеткамі. Тое ж можна сказаць і пра старыя звычаі, бо:

*Змяніўся час і нават на Каляды*
*Гасцям з «казой» і песнямі не рады.*

Чаму ж так здарылася, што чалавек сёння «целам паланёны»? Прычыну паэт акурат і бачыць у страце духоўнасці: для ранейшых «рамантыкаў» сузор'і перастаюць быць іконамі, высокім спрадвечным ідэалам зямнога быцця. Мабыць, таму многае і мяняецца, а традыцыі адыходзяць у нябыт.

Ды ўсё ж існуе повязь пакаленняў, і яе мацуюць продкі (на жаль, не заўсёды гэта робім мы, нашчадкі). І, дзякуй Богу, што памяць продкаў не дае забыцца пра вытокі, лучыць з радзімай. На магіле бацькі вырас жытнёвы колас. Ён сам прабіўся з-пад зямлі, быццам вырас з бацькавага неўміручага сэрца. Жыве ў памяці і скрыпка земляка Адама Камароўскага, і наплывае ўспамін...

Аднак памяць душы – гэта найперш памяць лірычнага героя пра свайго славутага земляка Якуба Коласа. Гэтым, напэўна, і абумоўлена цытаванне класіка беларускай літаратуры, нашага нацыянальнага генія. Дакладна, напрыклад, прыводзіцца першы радок знакамітай «Новай зямлі». З Коласавай паэмай, як няцяжка здагадацца, звязана і назва кнігі «Старая зямля». Гэтая алюзія як водгалас на выпакутаваныя мары героя «Новай зямлі». Ад «старой» зямлі (Мікалаеўшчыны) да Альбуці, дзе жыў Колас (у «Новай зямлі» – Парэчча) – «рукой падаць». Коласа і яго нашчадкаў яднае Нёман. Цікава, дубы, што вартуюць мудрую раку, М. Маляўка, пераймаючы Якуба Коласа, характарызуе пры дапамозе параўнання «як вежы». Нездарма сучасны паэт наўмысна паўтарае: «На ўсходзе неба грае...» (згадайма Коласаў верш «Усход сонца») і падкрэслівае, што гэты радок для яго «як свой». А вось М. Маляўка жыва ўяўляе сустрэчу Коласа і Купалы ў Смольні. Паэт адчувае сваю арганічную ўключанасць у духоўнае поле класікаў, іх нябачную прысутнасць, бо гэтыя вялікія песняры – «адзін народны голас» (згадайма: «Vox populi – vox dei» – вядомую лацінскую прыказку).

Лепш арыентавацца ў жыццёвым шляху і творчасці Коласа дапамагалі экскурсіі, праведзеныя ў музеі ў Смольні дзядзькам Юзікам і Юркам з Альбуці. Юрку аўтар вобразна назваў «залаты лісток», паколькі ён – зярнятка ў Коласавым жыццясвеце (верш «Коласаў шлях»). Звяртаючыся да Юркі, а не каго іншага, лірычны герой просіць: «Старую вёску ажыві». Пад «старой вёскай» Мікола Маляўка разумее не архаічны вясковы побыт, сядзібы, а найперш – зямлю, народны лад сужыцця-яднання. Цяпер яна, зямелька родная, малаўраджайная, не песціць сваёй удзячнасцю сялян. Нягледзячы на гэта, зямля – «гняздо жыцця». Яе адраджэнне немагчыма без адраджэння вёскі. Таму лірычны герой з трывогай задае пытанне: «Што будзе з вёскаю?» На думку аўтара, яе адрадзіць магчыма толькі пры адной умове. Ад матэрыяльных і духоўных страт ратаваў гурт, талака. Яе разнавіднасцю выступае трывалая сям'я, якую цяпер знойдзеш рэдка. Старая вёска вартая ўхвалы, хоць яна не ідэалізуецца паэтам. «Век мінулы» сялянскай цывілізацыі, калі да яго вяртацца па страчаныя каштоўнасці, здольны дапамагчы займець народу нашаму «грунт... пад нагамі» (Я. Колас).

Будучыню Мікалаеўшчыны лірычны герой прадказаць не можа, бо народныя павер'і і прыкметы не жывуць у народзе, а раней мікалаеўцы на гэта былі здольныя: напрыклад, маці давала дзецям наказ не наступаць на цень чалавека, бо ад гэтага залежыць жыццё таго, хто на яго наступіў.

Як чалавек разважлівы, глыбокі і лірык з тонкай коласаўскай душой, Мікола Маляўка кліча кожнага з нас да роздуму, задаючы філасофскае пытанне:

*Гадай, хто вызначае нашы лёсы:*
*Зямля свая ці Божыя Нябёсы?*

***«Хто ж і што прадвызначае наш лёс-быццё?» – міжволі задаеш такое пытанне самой сабе. Дык давайце думаць, разважаць і шукаць шлях да «Сваёй Зямлі», каб не быць перакаці-полем і па свеце «не бадзяцца батракамі» (Я. Колас). Бо яна нам Богам дадзеная. На векі і да сканчэння свету.***

*Таццяна МОЙСА,*
*студэнтка III курса філфака БДУ*





## *Кароткі слоўнік* краязнаўча-прававой тэрміналогіі *беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**НАВЯЗКА** – так называўся ў ВКЛ грашовы штраф за нанесеныя пабоі, раны, нязначны крадзеж маёмасці, учынены ўпершыню. Статут ВКЛ 1588 г. канкрэтызаваў кошт маёмасці і хатняй жывёлы, рэчаў і ў адпаведнасці з гэтым пакаранне.

**НАЕЗД** – у ВКЛ гвалтоўнае нападзенне на маёнтак з пашкоджаннем ці рабаваннем маёмасці, захопам зямель і сялян. Феадалы такім чынам намагаліся абагаціцца і набыць большую ўладу. У Судзебніку 1468 г. за такія рэчы пакаранне не было дакладна вызначана, у Статуце ВКЛ 1588 г. санкцыі за такія рэчы былі больш строгія. Улічвалася многае: задумы, падбухторванні, саўдзельніцтва, незаконнае нападзенне, крывавыя справы. У найбольш злачынных выпадках апошніх гэта разглядалася ў найвышэйшых дзяржаўных і судовых інстанцыях ВКЛ. За несправядлівыя і злачынныя наезды маглі быць вялікія штрафы, турэмнае зняволенне альбо нават прысуджана і смяротная кара. Пацярпелыя мелі права на абарону і нават маглі ў выпадку невінаватасці расправіцца з захопнікамі, але павінны былі прадставіць яўныя доказы. У вырашэнні спрэчак удзельнічаў возны.

**НАЙМІТ** – парабак, што быў ва ўслужэнні рамеснікаў, гандляроў і купцоў у горадзе. З XV ст. у ВКЛ яны былі своеасаблівай катэгорыяй і для іх існавалі асобныя квоты і грашовая аплата.

**НАМЕСНІК** – законны прадстаўнік вялікага князя ВКЛ у XIV–XV стст., якому даручаліся адміністрацыйна-гаспадарчая, фінансавая і судовая ўлада на землях былых самастойных княстваў. У XVI–XVII стст. – памочнікі старосты і ваяводы, якія мелі адміністрацыйна-судовую ўладу ў паветах і намесніцтвах.

**НАМОВА** (абмова) – нарада суддзяў перад вынясеннем выраку (прысуду). Абвяшчалася пасля слухання бакоў, сведак і адвакатаў, тлумачэння вознага пра сутнасць справы і выніку зробленага ім агляду месца злачынства, ран, шкоды.

**ОТЧЫЧЫ** – а) сяляне ў ВКЛ, якія не мелі права пераходу ад аднаго землеўладальніка да іншага (маглі называцца і айчызнымі людзьмі); б) катэгорыя сялян і феадалаў у ВКЛ, якія мелі ў спадчыну зямлю ці бацькаў маёнтак («отчыну»).



*Косава на паштоўцы 1930-х гадоў*

*Фота прадаставіла Ларыса МАКАРЭВІЧ*

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 8–10)*

# Афіцыйнае двухмоўе на Беларусі: рэальнасць ці дысбаланс?

Поўная адсутнасць на Беларусі афіцыйнага двухмоўя не можа не адбівацца і на характары моўных зносін людзей па-за сферай іх службовай дзейнасці. У падобнай сітуацыі, як сведчыць сусветная практыка, у такіх мэтах выкарыстоўваюць, за рэдкім выключэннем, дзяржаўную мову краіны. Усім вядома, як моцна трымаюцца за сваю мову яўрэі, армяне, грузіны. Аднак, трапіўшы ў тую ці іншую краіну, яны праз некалькі пакаленняў выракаюцца роднай і гавораць на дзяржаўнай мове. Такое можна сказаць пра немцаў Эльзаса і Латарынгіі: калі яны знаходзіліся ў складзе Германіі, у іх самай распаўсюджанай была родная мова. Калі ж паводле рашэнняў Версальскага мірнага дагавора 1919 года яны апынуліся пад уладай Францыі, усё больш немцаў стала выкарыстоўваць французскую мову, як мову дзяржаўную, хаця жылі і працягваюць жыць на сваёй гістарычнай тэрыторыі. Са сказанага лёгка зразумець, чаму беларусы пры такім працяглым існаванні на іх зямлі рускага дзяржаўнага аднамоўя гэтак рэдка карыстаюцца роднай мовай па-за афіцыйным жыццём. Калі б з заўтрашняга дня ўсе афіцыйныя функцыі рускай мовы ўсклалі на беларускую, апошняя ў грамадскіх месцах, сямейнай абстаноўцы загучала б паўсюдна так, як гэта сёння характэрна для першай. Таму давайце галоўную прычыну адсутнасці ў беларускай мовы нават мізэрнай ролі ў міжасобасных зносінах людзей тлумачыць толькі адным: працяглым і трывалым усталяваннем у краіне дзяржаўнага рускага аднамоўя.

Не першы год даследуючы моўную сітуацыю, я прыйшоў да цвёрдага пераканання, што беларускі народ нельга называць двухмоўным. У нас па-сапраўднаму двухмоўнымі з'яўляюцца толькі людзі, якія па сваёй прафесіі абавязаны ведаць беларускую мову: пісьменнікі і журналісты, настаўнікі беларускамоўных адукацыйных устаноў, ліцэяў, каледжаў, прафесары і выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры, часткова – гісторыі, культуры і шэрагу іншых дысцыплін гуманітарнага цыклу ва універсітэтах і інстытутах, ну і яшчэ нейкая крыха з ліку творчай інтэлігенцыі. А вось чыноўнікаў з міністэрстваў адукацыі і культуры, нават уключаючы іх раённыя структуры, ніяк нельга аднесці да двухмоўных, бо ў апошнія гады яны і ў час афіцыйных выступленняў, і ў міжасобасных зносінах ужываюць, за рэдкім выключэннем, толькі адзіна фактычна дзяржаўную ў краіне рускую мову.

Калі ў жыхароў гарадоў, інтэлігенцыі і палітычных дзеячаў аднамоўе носіць выключна небеларускі характар, дык у насельніцтва вёскі – беларуса-рускі. Вяскоўцы з чыста беларускай мовай практычна ледзь не ўсе ўжо адышлі на той свет. Пад уплывам сельскіх спецыялістаў, якія скончылі рускамоўныя навучальныя ўстановы, рускамоўных кіна-, радыё- і тэлеперадач, рускамоўных літаратуры і перыядычных выданняў, якімі застаўлены ўсе паліцы сельскіх бібліятэк, вяскоўцы не змаглі захаваць у чысціні родную мову і сталі носьбітамі беларуска-рускай «трасянкі», якая ў апошнія гады ўсё больш і больш трансфармуецца ў руска-беларускую «трасянку», што не дае права называць іх двухмоўнымі. Словам, на Беларусі няма не толькі развітога, прыстойнага, але нават самага прымітыўнага двухмоўя. Карэннаму насельніцтву яе рэальна пагражае поўнае абрусенне. Мы так далёка зайшлі ў страце этнакультурнай адметнасці, дэфармацыі нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, што нават пераважная большасць творчай інтэлігенцыі не валодае, не карыстаецца роднай мовай. Мясцовага паходжання прадстаўнікі такой інтэлігенцыі не ратуюць, а наадварот, садзейнічаюць культурна-моўнай асіміляцыі тытульнага народа, якая да таго ж яшчэ адбываецца пры самым поўным спрыянні ўласнай дзяржавы.

Палітыкі і ідэолагі мусяць прызнаць поўны крах навязанага імі сваёй краіне афіцыйнага двухмоўя, што няўхільна вядзе да такога ж правалу двухмоўя ў сферы міжасобасных зносін людзей. Двухмоўнасць аднаго і таго ж народа – гэта нонсенс.

Афіцыйнае двухмоўе ці шматмоўе цалкам лагічна, неабходна ў поліэтнічных краінах, на тэрыторыі якіх жыве некалькі народаў. Яскравым прыкладам можа служыць Бельгія. Тут у межах адной краіны на сваіх этнічных тэрыторыях жывуць два самабытныя, палітычна паўнапраўныя народы: валоны (гавораць па-французску) і фламандцы (гавораць па-галандску). Здараецца і такое, што ў якой-небудзь поліэтнічнай краіне тытульным народам з'яўляецца толькі адзін народ, а астатнія, хоць і жывуць на сваёй гістарычнай тэрыторыі, аднак не карыстаюцца ніякай тэрытарыяльна-палітычнай і нацыянальна-культурнай аўтаноміяй. Для іх веданне мовы дзяржаўнага народа – гэта асноўнае патрабаванне, інакш будзеш зведваць сур'ёзныя перашкоды ў службовай дзейнасці. А вось самому дзяржаўнаму народу валодаць мовай этнічных супольнасцяў зусім неабавязкова і таму ён, як правіла, заўжды аднамоўны.

Беларусь – краіна з адной тытульнай нацыяй, таму ўводзіць тут афіцыйнае двухмоўе няма ніякай патрэбы, алагічна. Гэтак жа алагічна, бесперспектыўна намагацца зрабіць яе народ двухмоўным. Непажаданы, небяспечны бок усякага двухмоўя заключаецца ў тым, што яно рана ці позна абавязкова прывядзе да аднамоўя. Нашых палітыкаў і ідэолагаў будзе не лішнім пазнаёміць, як на гэтую праблему глядзеў адзін з самых буйных тэарэтыкаў германскай сацыял-дэмакратычнай партыі і II Інтэрнацыянала Карл Каўцкі (1854–1938). Ураджэнец чэшскай Прагі, ён, мо як ніхто іншы, вельмі добра ведаў моўную сітуацыю ў поліэтнічнай Аўстра-Венгерскай імперыі. На яго вачах адбывалася дэфармацыя этнакультурнай самабытнасці народаў гэтай краіны з-за шырокага пранікнення ў іх жыццё нямецкай мовы. Галоўную прычыну вымірання нацыі К. Каўцкі бачыў у тым, «што яна перастае размаўляць на сваёй мове, паколькі лічыць іншую мову больш для сябе мэтазгоднай». Толькі зусім бязглуздыя ці варожыя беларускай нацыянальнай ідэі людзі могуць не заўважаць, што ўсё гэта ў поўным аб'ёме назіраецца з нашым народам.

Гужом цягнуўся і цягнецца ён да рускай мовы таму, што яна фактычна стала адзінай дзяржаўнай у краіне, пануе ва ўсіх відах службовага справаводства, у сферы адукацыі і культуры, у сродках масавай інфармацыі, падчас правядзення розных масавых святочных мерапрыемстваў. Свая ж спрадвечная, родная беларуская застаецца зусім незапатрабаванай, і найперш – у самых высокіх структурах дзяржаўнай улады. Вось да чаго прывяло нас хваленае, практыкай не падмацаванае афіцыйнае двухмоўе.

***Калі не змяніць дзяржаўную моўную палітыку, у беларускага народа – тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь – не застанецца аніякіх перспектыў на далейшае існаванне ў якасці самабытнай этнакультурнай супольнасці.***




*Сітуацыя з двухмоўем набліжаецца да парадаксальнай. Айчынныя вытворцы рэкламуюць свой тавар у замежнай графіцы (прыкладам, “Horizont”). А замежныя вядуць рэкламную кампанію па-беларуску.*

*Леанід ЛЫЧ,*
*доктар гістарычных навук,*
*прафесар*





Новае выданне

## Аляксей Пяткевіч – пісьменнік і краязнаўца...

**Няма сумневу, што новая кніга прафесара Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы Аляксея Пяткевіча «Старонкі спадчыны. Культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з'явы, асобы» (Мн.: «Беларускі кнігазбор», 2006) выкліча зацікаўленасць краязнаўцаў. У трох раздзелах (артыкулы, рэцэнзіі, партрэты) шмат фактаў з гісторыі Прынёманскага краю.**

Краязнаўчыя матэрыялы леглі ў аснову артыкулаў «Станаўленне беларускай ідэі ў кантэксце культурнага руху XIX ст.», «Гродзенскі гурток беларускай моладзі і Сакольшчына», «Старажытныя Евангеллі з Гродзеншчыны», «Культурныя здабыткі Гродзеншчыны ў музейных калекцыях вобласці». Аўтар неаднаразова падкрэслівае унікальнасць роднага краю, які даў літаратуры Адама Міцкевіча, Элізу Ажэшку, Ігната Дварчаніна, Зоську Верас, Янку Брыля, Янку Нёманская, Аляксея Карпюка, Данугу Бічэль, Юрку Голуба і многіх іншых.




Свае даследчыцкія высновы А. Пяткевіч выклаў у артыкулах «Культура гродзенскага рэгіёну як з'ява беларуска-польскага памежжа», «Рэгіянальныя асаблівасці польскай літаратуры ў XIX ст. у Беларусі», «Паэма Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» і ідэі Асветніцтва ў Беларусі», «Беларускія моўныя элементы ў творах польскіх пісьменнікаў-ліцьвінаў (XIX ст.)», «Творчасць Э. Ажэшкі як прадукт беларуска-польскага культурнага памежжа», «Асветніцкі кірунак творчай дзейнасці Сакрата Яновіча».

Цыкл «Партрэты» пачынае артыкул «Максім Багдановіч як феномен беларускай культуры». Іншыя творы прысвечаны знанаму краязнаўцу Зосьцы Верас, святару Казіміру Сваяку, Ларысе Геніюш, Аляксею Карпюку, кампазітару Аляксандру Шыдлоўскаму, беларусу з Беласточчыны Віктару Шведу, Данусе Бічэль, акадэміку Юрыю Астроўскаму, Лідзіі Ялоўчык, музеязнаўцу Алесю Белакозу.

Шкада толькі, што кнігу А. Пяткевіча набудзе далёка не кожны аматар гісторыі роднай зямлі, прыхільнік творчасці пэўнага літаратара, згаданага ў выданні. Бо наклад зборніка – усяго 100 асобнікаў.

І яшчэ. Сам Аляксей Міхайлавіч упершыню заняўся гэтай справай у 1968 годзе. Пераймаў веды і вопыт у Г. Каханоўскага, У. Урбановіча, А. Кіркевіча.

***Валерый ЗАДАЛЯ,* г. Гродна**

### Ці ад добрага жыцця?

Як паведамляе друк, сёлета ў Мінскай вобласці ў структуры тэрытарыяльных цэнтраў сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва пачнуць адкрывацца першыя з 16 аддзяленняў кругласутачнага знаходжання для адзінокіх непрацаздольных людзей, інвалідаў. Там пажылым будуць надаваць жыллё, бытавыя, санітарна-гігіенічныя паслугі, неабходная медыцынская помач, ежа. Сёлета мяркуецца адкрыць 4 такія аддзяленні (Дзяржынскі, Любанскі, Мінскі і Чэрвеньскі раёны), іншыя з'явяцца ў 2007–2008 гадах у Барысаўскім, Валожынскім, Клецкім, Стаўбцоўскім, Уздзенскім, Лагойскім, Маладзечанскім і іншых раёнах. На 2010 год запланавана адкрыццё аддзялення кругласутачнага знаходжання для дзяцей-інвалідаў.

# Леменьская школа-камуна

## Ці магчыма пераемнасць гэтай ідэі ў цяперашні час?

***Каб адказаць на гэтае пытанне, мы павінны вярнуцца ў мінулае амаль на стагоддзе, прааналізаваць умовы, у якіх існавала Леменьская школа-камуна пад кіраўніцтвам Мадэста Мікалаевіча Лепяшынскага. Гэты чалавек стварыў яе ў маёнтку памешчыка Васілеўскага ў вёсцы Лемень непадалёк ад Чэрыкава, узяўшы прыклад са свайго брата Панцеляймона (стварыў школу-камуну ў вёсцы Літвінавічы Кармянскага раёна). Першымі выкладчыкамі Леменьскай школы-камуны былі Зінаіда Мікалаеўна Лепяшынская, Пётр Мікалаевіч Лепяшынскі, Міхаіл Іванавіч Кернажыцкі, Мікалай Данілавіч Падабед.***

Выхаванцамі школы спачатку былі вучні старэйшых класаў школ Чэрыкаўскага раёна, потым шмат дзяцей прывезлі з раёнаў Паволжа, з дзіцячых дамоў Халобліна і Клінцоў. Прымаліся ў школу дзеці сялянскай беднаты, у першую чаргу сіроты.

Леменьская школа-камуна была размешчана ў вялікім трохпавярховым будынку з прыгожымі калонамі, на высокім беразе маляўнічага і вельмі глыбокага возера, якое ў народзе называлася Бяздонным. На першым паверсе знаходзіліся майстэрні, кухня, сталоўка і гаспадарчыя склады, памяшканні для музычных інструментаў. На другім паверсе размяшчаліся пакоі і кватэры настаўнікаў, а таксама невялікая спартыўная зала. Тут вісеў школьны званок. На трэцім паверсе былі дадатковыя спальні для хлопчыкаў. Школа мела сваю спартыўную пляцоўку, лазню, скотны двор, сенавал.

Галоўнае – вучоба. Стварэнню спецыяльных умоў для яе было падпарадкавана ўсё: адкрытыя пасяджэнні педсавета, метадыкі выкладання, сістэмы школьнага самакіравання, унутраны распарадак дня.

Вучні прачыналіся па званку, умываліся ў возеры (летам у любую пару года), зарадку рабілі, потым снедалі і ішлі на ўрокі, якія праходзілі наступным чынам. Спачатку настаўнік расказваў новы матэрыял, пасля былі пытанні, адказы на іх, затым хто-небудзь з вучняў паўтараў новы матэрыял і, нарэшце, рабіліся практыкаванні, якія замацоўвалі атрыманыя веды.

Школа мела зямельны ўчастак у 22 дзесяціны, які выкарыстоўваўся пад ярравыя і бульбу, пад агарод і пашу. У 1922–1923 гадах налічвалася 189 вучняў, якія не толькі навучаліся, але і працавалі ў кузні, у полі, у лесе.

У вольны час займаліся ў гуртках: літаратурным, драматычным, сельскагаспадарчым, музычна-харавым. Майстэрству гульні ў шахматы, гімнастыцы, плаванню навучаў сваіх выхаванцаў сам М.М. Лепяшынскі. У Лемяні была створана адна з першых у рэспубліцы футбольная каманда.

У школе-камуне дзейнічалі органы вучнёўскага самакіравання. Кіруючым органам быў агульны сход. Выканаўчы камітэт школы складаўся з 25 чалавек, яго прэзідыум – з 5. Працавалі камісіі: працоўная, гігіенічная, харчовая і гаспадарчая. У школе выходзіў рукапісны часопіс.

*– Праца была неад'емнай часткай нашага жыцця, –* узгадваюць былыя выхаванцы.

Вельмі добра ў школе было пастаўлена вывучэнне замежных моў. На ўроках нямецкай мовы дазвалялася размаўляць толькі па-нямецку. Абавязковым было навучанне нотнай грамаце і гульні на адным альбо некалькіх музычных інструментах.

Вольга Панцеляймонаўна, пляменніца Мадэста Мікалаевіча, узгадвала:

*– У нас кожны вучань адчуваў, што школа – гэта яго школа, ён адказвае за яе. Вучні любілі сваю школу, бо яна сапраўдная сям'я. У гэтай сям'і ніхто не павінен існі супраць цячэння.*

Мінулі дзесяцігоддзі... Кім сталі выхаванцы Леменьскай школы, тыя, хто калісьці прыязджаў у Маскву, Ленінград у лапцях, але з дакументамі аб заканчэнні сваёй любімай школы-камуны?!.

Дактары і кандыдаты навук, члены-карэспандэнты акадэмій, выкладчыкі ВНУ, металургі, інжынеры, дыпламаты, генералы, афіцэры, вядомыя кампазітары, цудоўныя педагогі – вось хто яны, леменьцы.

Майстэрствам ігры на скрыпцы авалодаў пад кіраўніцтвам Мадэста Мікалаевіча Ісаак Любан, які стаў кампазітарам, заслужаным дзеячам мастацтва БССР, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР. І сёння, калі яго ўжо няма з намі, яго песні гучаць. І.І. Любан аўтар вакальна-сімфанічнай сюіты «Мяжа ў пясках», «Калгасныя вячоркі», песень «Бывайце здаровы», «Толькі з табой» і інш.

З успамінаў П.Ф. Ракіцкага, колішняга выхаванца, а потым і настаўніка Леменьскай школы-камуны:

*– У Чэрыкаў Лепяшынскія прыехалі ў пачатку 1918 года. Мадэст Мікалаевіч кіраваў школай (колішняй гімназіяй), а Зінаіда Мікалаеўна, яго сястра, выкладала там рускую мову і літаратуру. Невялікага росту, з сівой бародкай, вельмі стрыманы, Мадэст Мікалаевіч заўсёды выглядаў неяк асабліва. У школе ён хутка заваяваў давер і аўтарытэт сярод настаўнікаў і вучняў. Матэматыку выкладаў падрабязна, лагічна, цаніў у вучнях самастойнасць, асабліва пры рашэнні задач. Калі зірнуць у пасведчанне, якое выдавалася выпускнікам школы-камуны, то можна пабачыць, што сярод звычайных прадметаў (алгебры, геаметрыі, фізікі), былі і такія – матэматычны аналіз, гісторыя культуры, палітэканомія, заканадаўства. У выпускным класе былі камбінаваныя задачы, якія спалучалі матэрыял з алгебры, геаметрыі і трыганаметрыі. «Жахлівыя» дыферэнцыялы і інтэгралы здаваліся вучням простымі ў выкладанні Мадэста Мікалаевіча.*



Выхаванцы школы-камуны з М. Лепяшынскім (у цэнтры)

29 верасня 1922 года, ратуючы вучня, трагічна загінуў Мадэст Мікалаевіч Лепяшынскі...

Раніцай дзеці сталі сведкамі трагедыі, якая адбылася на лузе каля школы. Раз'юшаны бык пагнаўся за адным з вучняў. Ляжала раса, дзіця паслізнулася і ўпала, яго чакала немінучая пагібель, але ў гэты час Мадэст Мікалаевіч падаспеў на дапамогу. Ён схапіў быка за рогі, але сілы былі няроўныя. Падчас барацьбы бык пратыкнуў настаўніку сонную артэрыю.

З Чэрыкава прыехаў доктар, але выратаваць Мадэста Мікалаевіча не змаглі.

Больш за два гады працаваў ён у Лемені і пакінуў глыбокі след у памяці нашчадкаў. М. Лепяшынскі – гэта таленавіты, выдатны педагог-наватар. Ён не напісаў тэарэтычных прац, бо лічыў, што патрэбна яшчэ некалькі гадоў вопыту, праверак, а потым ўжо можна і абагульняць. Ён быў выключна сціплы, як і ўсякі чалавек, адданы сваёй справе.

Пасля трагічнай гібелі Мадэста Мікалаевіча прайшоў яшчэ адзін вучэбны год у школе-камуне, і ў 1924 годзе яна была пераўтворана ў школу сялянскай моладзі. Малодшыя з леменьцаў былі пераведзены ў Мсціслаўскі Гарадок. Старэйшыя выхаванцы атрымалі сярэднюю адукацыю, былі накіраваны на працу, ішлі на вучобу ў тыя навучальныя ўстановы, у якія самі захацелі.

Шмат гадоў таму каржакаваты чалавек з сівой барodкаю прывёў групу хлопчыкаў у маёнтак над Сожам. Сярод іх быў і Іван Гутараў, трынаццацігадовы падлетак з суседняй вёскі Волкава, круглы сірата, для якога бацькам стаў адзін з першых настаўнікаў у тутэйшых мясцінах.

Прайшоў час, выхаванец школы-камуны стаў доктарам філалагічных навук, прафесарам, членам-карэспандэнтам АН БССР, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, быў камісарам партызанскага атрада імя Шчорса партызанскай брыгады імя Варашылава.

Паміраючы, Іван Гутараў пакінуў ліст з просьбай пахаваць яго каля магілы свайго настаўніка М.М. Лепяшынскага ў вёсцы Лемень на мясцовых могілках...

***З фондаў Чэрыкаўскага гісторыка-краязнаўчага музея***

# Сноўскія славутасці

***Сярод архітэктурных шэдэўраў Нясвіжчыны (замка, фарнага касцёла і Слуцкай брамы) неяк убаку застаецца палац «100 пакояў» у Снове, пабудаваны ў стылі класіцызму. Доўгі час лічылася, што палац адноўлены ў 1827 годзе згодна з праектам архітэктара Б. Тычэцкага на заказ наваградскага маршалка Казіміра Рдултоўскага (В. Чантурыя. Помнікі архітэктуры Беларусі. Мн., 1986).***

Сёння з'явіліся іншыя звесткі аб больш раннім будаўніцтве цудоўнага палаца. Прафесар А. Федарук даводзіць, што палац наведаў яшчэ ў 1764-м кароль Станіслаў Панятоўскі. А. Ельскі ў «Жывапіснай Расіі» адназначна сцвярджае, што палац у Снове пабудаваны ў 1760 годзе. У беларускіх архівах захаваліся звесткі пра разбурэнне будынка ў канцы XVIII стагоддзя падчас Барскай канфедэрацыі. В. Афтаназі лічыць, што сучасны палац пабудаваны паміж 1812 і 1825 гадамі. Ён з'явіўся кампазіцыйным цэнтрам вялікага маёнтка, сфармаванага на роўнай тэрасе невялічкай рэчкі Сноўкі.

Палац уяўляе сабой новы тып будынкаў з раскрытай франтальнай планіроўкай па адной папярэчнай восі. У цэнтры яго – двухпавярховы аб'ём, афармлены па фасадзе рознымі чатырохкалоннымі іанічнымі порцікамі ў грэчаскім стылі. Далей ідуць аднапавярховыя крылы з павільёнамі, якія былі жылымі і службовымі памяшканнямі. Крылы палаца таксама дэкараваны іанічнымі каланадамі. Пры гэтым каланада левага крыла адкрытая, а правага прымыкае да фасаднай сцяны. Будынак выдзяляецца выразнасцю форм і строгім дэкорам. Яго веліч заснована на прыгажосці капітэляў, рызалітамі карпусоў (амаль 140 метраў).

У 1912 годзе архітэктары І. Навікоўскі і Э. Кулеша зрабілі абмеры і чарцяжы ўнутранай планіроўкі палаца. У ім былі вестыбюль, парадная зала, анфілада гасцінных пакояў, а таксама капліца. Пакояў на той час было каля сотні. Асабліва прыгожай была бальная зала плошчай больш за 100 квадратных метраў. Шэсць высокіх вокнаў напаўнялі яе святлом. Вялікую ролю ў інтэр'еры палаца адыгрываў алькоў, у нішах якога стаялі скульптуры. Від малой архітэктурнай формы выконвала прыгожая кафляная печ.

Даследчыкі ландшафтнай архітэктуры сцвярджаюць, што па планіроўцы і прыгажосці парк вакол палаца не ўступае нясвіжскаму, закладзенаму Марыяй Даротай Радзівіл. Ён адкрыты, мае добры газон, па перыметры абкружаны алеямі.

Партэр складае перспектыва, акцэнтам якой служыць касцёл Іаана Хрысціцеля (1760), фундатарам якога з'яўляўся Рдултоўскі. На месцы ўязной алеі быў разбіты школьны сад. Сучасны газон прыняў геаметрычны малюнак. Сіметрычнасць кампазіцыі падкрэслівалася будынкамі невялікага крухмальнага завода і свірна. Перспектыва ўзбагацілася вадаёмам, сфарміраваным недалёка ад палаца. Гэтая частка структурна добра апрацавана, уключае ў сябе прамавугольны і акруглы вадаёмы, дзве выспы, вузкія пратокі. Тры крыніцы на дне выкладзены бутам. Выспа рэльефна прыпаднята над вадой і пакрыта дрэвастоем ясеню, ліпы і клёна. У апошнія гады частка дрэў спілавана, старым ясеням надрэзкай кронаў нададзены экзатычны выгляд, праведзена падсадка бяроз. Пасаджаны таксама вербы залацістапабегавыя ўздоўж паўднёвага вадаёма.



*Сноўскі палацава-паркавы ансамбль на малюнку Н. Орды*

Сноў вядомы з сярэдзіны XVI стагоддзя, а не з 1602 года, як пішуць некаторыя даследчыкі. Належаў Радзівілам, Галабурдам, а з 1639 года Рдултоўскім герба Драгаслаў. Заснавальнікам сноўскай лініі гэтага роду быў Ян Багуслаў, наваградскі кашталян, жанаты з Аленай Ваньковіч. Згодна з тастаментам, Сноў адышоў яго сыну Антонію, а затым – Яну Хрызастому, харунжаму наваградскаму, кавалеру ордэнаў Св. Станіслава і Залатога Льва. Фарміраванне маёнтка ў яго класічным выглядзе вялося пры Казіміры Рдултоўскім (1785–1855). Ён з ранняга дзяцінства жыў і вучыўся ў Англіі, у Оксфардзе атрымаў званне доктара філасофіі, ажаніўся з Канстанцыяй Булгарынай. Шлюб быў шчаслівы, яны мелі трох дзяцей, карысталіся павагай у вышэйшых колах грамадства. Менавіта Казімір стварыў у Снове цудоўную рэзідэнцыю з зімнім садам, карціннай галерэяй і бальнай залай. Ён паспяхова займаўся гаспадаркай, стварыў і ўтрымліваў конны завод. У Адахаўшчыне была пабудавана суконная фабрыка. Дарэчы, каля 1807 года Сноўскі палац наведаў Іеранім, брат Напалеона І.

Старэйшы сын Казіміра, маршалак Слуцкага павета, скончыў Сарбонскі універсітэт у Парыжы, быў вельмі літаратурна адораны. Сябраваў з Адамам Міцкевічам, сустракаўся з А.С. Пушкіным у Маскве і Пецярбургу. Ён пераклаў на англійскую мову шэдэўры А. Міцкевіча «Крымскія санеты» і паэму «Конрад Валенрод». Называў класіка «ліхім паэтам».

У 1854 годзе Сноў з фальваркамі Горны і Дольны Сноў перайшоў да барона Густава Гартынга. У 1925 годзе Гартынгі прадалі палац польскай дзяржаве. З 1927 года тут месціліся канцылярыя, жытло для афіцэраў польскага корпуса аховы мяжы, а таксама казіно.

У Снове ёсць яшчэ адзін помнік архітэктуры пачатку XX стагоддзя. Гэта – Казма-Дзям'янская царква, пабудаваная ў стылі мадэрн.

У апошні час Сноў набыў статус аграгарадка са сваёй адметнай інфраструктурай. Сёння ён вядомы не толькі ў Беларусі, але далёка за яе межамі. Магчыма, настаў час уключыць унікальны ансамбль помнікаў гісторыі і ўзору вясковага гаспадарання ў маршрут турызму.

*Мікалай СЯЛЕЦКІ, гісторык, г. Нясвіж*




*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 6–7, 10)*

## Маршрут 5

### Збаравічы – Ашнарава – п. імя Леніна – Путнікі – Шчарбіны – п. Лашаны – Недраска – ст. Беларусь

Перад вёскай Ашнарава праходзіць асфальтавая дарога. На поўнач ад вёскі адыходзіць жвіраванка. 300 метраў па ёй – і мы каля кар'ера, у сярэдзіне якога захаваўся завалены на бок кулямётны дот. Лес, які пачынаецца за вёскай, завецца Валока. Ён названы так таму, што знаходзіцца на вялікім водападзеле Балтыйскага і Чорнага мораў і тут, напэўна, у старажытнасці быў сухапутны волак.

Ад Ашнарава ідзем па асфальтавай дарозе на поўдзень, злева на пагорачку за сажалкай бачым яшчэ адзін дот.

Падыходзім да пасёлка імя Леніна, які амаль ператварыўся ў катэджавае пасяленне. Мясцовыя жыхары называюць пасёлак скарочана – Ленпас. У пачатку XX ст. тут існавала толькі невялікая сядзіба Верасы з драўляным сядзібным домам, які ў даваенны і паваенны час выкарыстоўваўся як школа (потым быў разабраны). На месцы колішняй сядзібы ўзведзены 2-павярховы катэдж.

За Ленпасам выходзім на асфальт былога Віленскага тракту і, не прайшоўшы па ім і 300 м, зноў збочваем у паўднёвым напрамку (на Шчарбіны). Тут, на ўзлеску ля павароту, захаваўся дот, які спрабавалі сцягнуць з раллі, але змаглі толькі паставіць яго старчаком, у выніку атрымаўся дзіўны выгляд.

Шлях перасякаюць невялікія ручаіны, якія цякуць па ярах – гэта безыменныя прытокі Гуйкі, якую мы бачылі ў пачатку вандроўкі. Справа застаецца вёска Мацкі, а на пагорку за другой ручаінай – скрыжаванне дарог і вёска Путнікі. Справа перад скрыжаваннем захаваліся старыя дрэвы былога сядзібнага парку і саду на схіле да ручая. Сядзіба мела назву Стары Ломшын. Дом у ёй быў драўляны, разабраны падчас Другой сусветнай вайны. У XIX стагоддзі сядзіба належала Рэутам. За 1 км на поўнач ад яе каля цяперашняй вёсачкі Крыніца размяшчалася панская сядзіба Новы Ломшын, якая належала Кулакоўскім і ад якой не засталося ніякіх слядоў, – яна была спалена ў вайну. У гэтай сядзібе да 1939 месцілася памежная застава.

Да Шчарбінаў на працягу 2 км дарога ідзе па меліяраванай даліне ўздоўж ручаіны. Выйшаўшы ў Шчарбінах на трасу Мінск–Маладзечна і скіраваўшы ў бок Мінска, пачынаем рух угору на Чарнаморска-Балтыйскі водападзел. Якраз на ім на 31-м кіламетры шашы размешчаны музеефікаваны комплекс дотаў, дапоўнены ў 2005 іншымі вайсковымі элементамі і экспанатамі і названы «Лініяй Сталіна». У комплекс уваходзяць: 4 агнявыя пункты – доты, стылізаваныя супрацьтанкавыя і супрацьпяхотныя загароды, памятная пліта абаронцам, загінулым улетку 1941 г., экспазіцыі вайсковай тэхнікі, артылерыйскія пазіцыі, пантонная тэхніка і вадаём. Наведанне комплекса платнае. Тут плануецца стварыць цэнтр адпачынку з рэстаранам, праводзіць відовішчныя мерапрыемствы. З гэтага месца адкрываюцца цудоўныя далёкія панарамы ва ўсіх напрамках. Ад гэтага месца наш шлях будзе пралягаць да ракі Свіслач басейна Чорнага мора.

Па шашы Маладзечна–Мінск падыходзім да пасёлка Лашаны. Перад Лашанамі справа ад шашы на ўсходнім схіле пагорка заўважаем яшчэ адзін дот. У цэнтры пасёлка знаходзіцца школа, у якой створаны этнаграфічны музей, які можна наведаць па папярэдняй дамоўленасці.

Ад школы ідзем далей па галоўнай вуліцы пасёлка Лашаны, якая спускаецца ў даліну ракі Свіслач, паступова паварочвае налева і выходзіць на былы шлях, што вёў у Заслаўе. Па ім ідзем напрасткі і падыходзім да плаціны невялікага вадаёма на невялікім ручаі Мачыне, які яшчэ ў пачатку XX ст. быў даволі паўнаводным і згадваўся як рака. Звернем за плацінай налева і пройдзем уздоўж берага вадаёма да пагорка з некалькімі здзічэлымі дрэвамі. Тут размяшчалася панская сядзіба Недраска, вядомая з XV ст., калі належала Пятру Мантыгірдавічу – ваяводу троцкаму і маршалку земскаму, палітычнаму дзеячу ВКЛ. У XVI ст. сядзіба Недраска стала часткай маёнтка Дуброва (цяпер – вёска ў Маладзечанскім раёне), належала Глябовічам, Радзівілам, з канца XVII ст. да 1832 – уласнасць Заслаўскага дамініканскага кляштара, заснаванага Сапегамі, калі ў касцёл быў ператвораны былы кальвінскі збор, вежа якога бачная наперадзе з шляху Лашаны – Заслаўе. Пасля паўстання 1863–1864 сядзіба Недраска была аддадзена ўдаве генерала Рэйхнаў. Драўляны сядзібны дом тут быў разабраны ў канцы 1930-х. У гэтым месцы вада, пагоркі, лес ствараюць маляўнічы краявід. Тут неблагое месца для прывалу.

Выходзім зноў на стары шлях і бачым на ўзлеску пры ім яшчэ адзін бетонны артылерыйскі дот, які напалову ўкапаны ў схіл і скіраваны амбразурамі ў бок нашай дарогі.

Увайшоўшы ў вёску Дзехнаўка, якая цяпер стала часткай Заслаўя, у сярэдзіне вуліцы збочваем направа да драўлянага мастка праз канал Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, які ўключыў у сябе ранейшае рэчышча ракі Свіслачы. Сцежка праз луг прыводзіць нас да чыгуначнай станцыі «Беларусь», адкуль электрычкай дабіраемся да Мінска. Пры жаданні можна прайсці ўсю вёску Дзехнаўку і дайсці да Заслаўскага замка XVI ст. – арыенцірам з'яўляецца высокая вежа былога кальвінскага храма (сучаснай праваслаўнай Спаса-Праабражэнскай царквы).



**Закінуты дот**

*Фота Віктара ПІРАГА*





# Усебеларуская турысцка-краязнаўчая экспедыцыя «Наш край» – 2005

***Асноўная асаблівасць правядзення чарговага IV этапа экспедыцыі – гэта ўсебаковае даследаванне рэгіянальнай культурна-гістарычнай і прыроднай спадчыны. У сувязі з гэтым юныя краязнаўцы працуюць па канкрэтных праграмах, якія створаны рэгіянальнымі краязнаўчымі Саветамі.***

У Гомельскай вобласці склалася пэўная сістэма турысцка-краязнаўчай і экспедыцыйнай дзейнасці дзякуючы абласной праграме «Пазнай сябе і свой край». На Магілёўшчыне дзейнічае абласная турысцка-краязнаўчая праграма «Наш край Прыдняпроўскі», у Гродзенскай вобласці – «Нам засталася спадчына» і іншыя. На аснове абласных праграм з улікам мясцовых асаблівасцей дзейнічаюць рэгіянальныя праграмы («Смаргонезнаўства», «Я – Рэчычанін», «Аршазнаўства», «Бацькаўшчына» (Краснапольскі раён Магілёўскай вобласці і інш).

Традыцыйным стала правядзенне абласных краязнаўчых алімпіяд навучэнцаў у рамках праграмы «Наш край Прыдняпроўскі» у Магілёўскай вобласці, дзе прымаюць удзел амаль усе раёны. Вынікі алімпіяды падводзяцца сумесна з абласным краязнаўчым музеем. Масава ахоплівае навучэнцаў краязнаўчы праект «Галасы гісторыі», які ўзнавіўся ў 2005 г. у Гродзенскай вобласці. Абласныя краязнаўчыя конкурсы – «Майстры цуда» і «Тапаніміка Берасцейшчыны» дазволілі прыцягнуць да навукова-даследчай дзейнасці навучэнцаў устаноў адукацыі Брэсцкай вобласці. Цікава склалася сістэма турысцка-краязнаўчай і экспедыцыйнай дзейнасці ў Гомельскай вобласці, дзе недахоп устаноў турысцка-краязнаўчага профілю (у вобласці іх 7: 4 цэнтры і 3 аддзелы) кампенсуецца супрацоўніцтвам з апорнымі школамі, якіх у вобласці 57. Яны з'яўляюцца метадычна-арганізацыйнымі цэнтрамі па развіцці турызму і краязнаўства ў рэгіёне. Узорнымі базавымі ўстановамі можна назваць Капаткевіцкую СШ Петрыкаўскага раёна, СШ № 1 г. Веткі, Парыцкі ЦПР Светлагорскага раёна. Гомельскім аблвыканкамам выдзелена 20 мільёнаў рублёў на рэалізацыю праграмы вывучэння гісторыі роднага краю. Толькі ў верасні 2005 года 1 145 навучэнцаў наведалі многія старажытныя гарады Беларусі і «Залатое кальцо Гомельшчыны».

У рамках плана правядзення масавых мерапрыемстваў Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край» у 2004/2005 навучальным годзе праведзены:

– **рэспубліканскі конкурс на лепшы праект краязнаўчага маршрута «Мой край».** Конкурс праводзіўся сумесна з ГА «Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры» і ГА «Беларускі фонд культуры». У ім прыняло ўдзел больш за 290 творчых праектаў, якія былі прадстаўлены калектывамі навучэнцаў і педагогаў устаноў адукацыі з усіх абласцей краіны і г. Мінска. Па выніках конкурсу рэспубліканскі арганізацыйны камітэт адзначыў высокі ўзровень зробленага юнымі краязнаўцамі і педагогамі Сваятыцкай БШ Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці, СШ № 1 г.п. Лёзна Віцебскай вобласці, Рагачоўскага краязнаўчага цэнтра Гомельскай вобласці, Крэўскай СШ Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці, Ільянскай СШ Вілейскага раёна Мінскай вобласці, СШ № 13 г. Мінска, Дзіцяча-юнацкага цэнтра падарожжаў і краязнаўства «Бабраня» г. Бабруйска Магілёўскай вобласці.

– **рэспубліканскі конкурс музеяў, пакояў і экспазіцый прыродазнаўчага профілю.** Аналіз конкурсных справаздач засведчыў актыўную пошукава-даследчую, асветніцкую і грамадска-карысную працу музеяў, пакояў і экспазіцый прыродазнаўчага профілю ва ўстановах адукацыі. Дзейнасць іх у асноўным накіравана на стварэнне ўмоў для фармавання ў навучэнцаў экалагічнай адукацыі і культуры, адказных адносін да ўсяго жывога. Станоўчы вопыт такой работы назапашаны ва ўстановах адукацыі Мінскай вобласці.

Дзякуючы конкурсу, наладзіліся сувязі з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя на рэспубліканскім узроўні і са структурнымі падраздзяленнямі Міністэрства на рэгіянальных узроўнях.

Творчыя работы, якія адпавядалі асноўным мэтам і ўмовам конкурсу, былі адзначаны каштоўнымі падарункамі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

– **рэспубліканскі завочны конкурс на лепшую краязнаўчую экспедыцыю (паход),** праводзіўся ў 2004/2005 навучальным годзе. У рэспубліканскі арганізацыйны камітэт былі прадстаўлены лепшыя справаздачы аб турысцка-краязнаўчых паходах і вандроўках, ваенна-патрыятычных, археалагічных, фальклорна-этнаграфічных, эколага- і гісторыка-краязнаўчых экспедыцыях за 2004/2005 навучальны год.

Першапачаткова меркавалася, што школы прадставяць своеасаблівыя справаздачы за навучальны год, але некаторыя работы выходзілі далёка за межы патрабаванага: назапашаны і аформлены багацейшы матэрыял. Работы па сваім аб'ёме, глыбіні зместу больш нагадвалі навуковыя даследаванні. Па выніках гэтага конкурсу будзе выдадзены зборнік краязнаўчых маршрутаў.

У адпаведнасці з планам правядзення масавых мерапрыемстваў Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край» на 2004–2006 гг. і ў рамках рэспубліканскага лагера краязнаўчага актыву на базе Рэспубліканскага цэнтра турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі з **16 чэрвеня па 14 ліпеня 2005 г. прайшлі вучнёўскія канферэнцыі па накірунках:** «*Культурная спадчына*», «*Адраджэнне гістарычнай памяці*», «*Славутыя імёны Бацькаўшчыны*» і «*Прыродная спадчына*». На канферэнцыях прадставілі свае напрацоўкі па вызначаных накірунках актывісты краязнаўчага руху, пераможцы абласных мерапрыемстваў. 29 навучальна-выхаваўчых устаноў з усіх абласцей краіны і г. Мінска абмяняліся вопытам краязнаўчай працы. Матэрыялы даследаванняў юных краязнаўцаў зараз выкарыстоўваюцца як каштоўная навуковая інфармацыя ва ўстановах адукацыі і па-за іх межамі.

Рэспубліканскі цэнтр турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі ўдзельнічаў у правядзенні рэспубліканскага турысцка-краязнаўчага, экалагічнага лагера-практыкума ў Смалявіцкім раёне Мінскай вобласці сумесна з ГА «Беларускі зялёны крыж». Гэтым летам былі праведзены 3 змены лагера.

Стала традыцыйным правядзенне рэспубліканскіх *краязнаўчых чытанняў* педагагічных работнікаў. Такая форма работы мае станоўчыя вынікі ў многіх рэгіёнах. Так, у 2005 г. прайшлі першыя краязнаўчыя чытанні ў Гродзенскай і Магілёўскай абласцях. У Магілёўскай вобласці выйшаў *зборнік матэрыялаў* першых абласных краязнаўчых чытанняў «Краязнаўства на Магілёўшчыне: сучасны стан і перспектывы развіцця», які выкарыстоўваецца педагогамі ў краязнаўчай рабоце.

Усталявалася такая форма работы з педагогамі, як правядзенне **семінараў**. На базе ўстаноў адукацыі Валожынскага раёна ў снежні прайшоў рэспубліканскі семінар кіраўнікоў музеяў па тэме: «*Гісторыка-культурныя каштоўнасці рэгіёна ў змесце дзейнасці сучаснага музея ўстановы адукацыі*», у якім прынялі ўдзел 50 кіраўнікоў музеяў з усіх рэгіёнаў краіны. Паспяховаму правядзенню семінара садзейнічала актыўная і плённая праца супрацоўнікаў Мінскага абласнога вучэбна-метадычнага кабінета і аддзела адукацыі Валожынскага райвыканкама. Семінары-практыкумы кіраўнікоў музеяў розных профіляў прайшлі і на рэгіянальных узроўнях.

Вялікую цікавасць выклікае работа з педагогамі ў Віцебскай вобласці. У гэтым годзе прайшоў *абласны конкурс на лепшы краязнаўчы занятак з вучнёўскім гуртком*. У рамках конкурсу адбыліся трохдзённыя семінары-практыкумы, на якіх педагогі-канкурсанты дэманстравалі заліковыя заняткі з незнаёмымі групамі навучэнцаў па ўласных распрацоўках. Арганізатарамі конкурсу быў адзначаны высокі ўзровень работ, шэраг з іх выдзяляліся навуковай навізной. **Па матэрыялах конкурсу распрацаваны метадычныя рэкамендацыі для выкарыстання ў сваёй рабоце іншымі педагогамі.**

Для святкавання 60-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне асаблівы змест набылі такія тэмы, як «Старонкі ваеннай гісторыі» і «Славутыя імёны Бацькаўшчыны». Праводзілася *рэспубліканская патрыятычная акцыя навучэнцаў «Перамога»*. Юныя краязнаўцы працавалі ў 5 намінацыях: «Беларусы – удзельнікі вызвалення Еўропы ад фашызму», «Беларусы – Героі Савецкага Саюза, поўныя кавалеры ордэна Славы», «Беларусы – военачальнікі і камандзіры Вялікай Айчыннай вайны», «Малавядомыя старонкі Вялікай Айчыннай вайны», «Ураджэнцы Беларусі – удзельнікі Супраціўлення».

На працягу года юныя краязнаўцы з педагогамі ўсіх рэгіёнаў вывучалі дакументы, матэрыялы дзяржаўных, прыватных архіваў, навукова-дакументальную, гістарычную літаратуру. У ходзе акцыі яе ўдзельнікі пабывалі на экскурсіях, у паходах, экспедыцыях па месцах воінскай славы, сустракаліся з удзельнікамі, відавочцамі падзей Вялікай Айчыннай вайны, запісвалі іх успаміны, аказвалі дапамогу ветэранам, добраўпарадкоўвалі месцы вайсковай славы.

На тэрыторыі Гомельскай вобласці аднаўлены 1 016 імён невядомых воінаў, адкрыты 22 помнікі і мемарыяльныя дошкі, У Мінскай вобласці – 25 помнікаў, памятных знакаў і дошак, адноўлены 133 імёны.

Вялікая даследчая праца ў гэтым накірунку вядзецца сектарам пошукавай работы аддзела краязнаўства Магілёўскага цэнтра фізічнага выхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў пад кіраўніцтвам М.С. Барысенкі. Пошукавым клубам «Віккру», якім ён кіруе, устаноўлены імёны 25 байцоў і камандзіраў 388-га стралковага палка, якія загінулі пры абароне г. Магілёва і лічыліся невядомымі.

Галоўнае ў навучальна-выхаваўчым працэсе музеяў устаноў адукацыі ў тым, што моладзь выступае тут не як спажывец прадукта музейнай дзейнасці, а як актыўны яго стваральнік. Паходы, экспедыцыі, экскурсіі па родным краі, гутаркі з удзельнікамі і сведкамі даследуемых падзей, затым праца з сабраным матэрыялам у музеі дае больш канкрэтныя і вобразныя ўяўленні па гісторыі, культуры і прыродзе свайго краю, дазваляе зразумець, як гісторыя малой радзімы звязана з гісторыяй краіны.

У школьнага музея вельмі складаны сацыяльны статус. **Па-першае**, школьны музей – гэта грамадскае аб'яднанне ва ўстанове адукацыі са сваім кіруючым і выканаўчым органам (актыў і Савет школьнага музея), **па-другое** – гэта структурнае падраздзяленне ўстановы адукацыі, і дырэктар (кіраўнік установы) нясе адказнасць і за дзейнасць актыва школьнага музея, і за гісторыка-культурныя каштоўнасці, якія захоўваюцца ў музеі, і за тое, каб школьны музей дзейнічаў у рамках існуючага заканадаўства. І, **па-трэцяе**, школьны музей – гэта **грамадская ўстанова культуры**, і кіраўнік музея імкнецца так арганізаваць работу, каб яна адпавядала патрабаванням, якія прад'яўляюцца ўстановам музейнага тыпу. Паводле метадычнага пісьма «Аб сумеснай дзейнасці музеяў устаноў адукацыі і дзяржаўных музеяў» (2001), па метадычную і практычную дапамогу кіраўнікі музеяў устаноў адукацыі могуць звяртацца да дзяржаўных музеяў. *Станоўчы вопыт супрацоўніцтва школьных і дзяржаўных музеяў назіраецца ў Гродзенскай вобласці.*

На сённяшні дзень у школах, ПТВ, сярэдніх спецыяльных навучальных установах налічваецца звыш 1 400 музеяў розных накірункаў. Дзейнасць музеяў устаноў адукацыі **рэгламентуецца** Законам Рэспублікі Беларусь «Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь» і Палажэннем аб музеі ўстановы адукацыі, зацверджаным пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь № 52 ад 04.12.2002 г.

У Закон Рэспублікі Беларусь ад 5 верасня 2005 года «Аб музеях і Музейным Фондзе Рэспублікі Беларусь» унесены змяненні і дапаўненні, згодна з якімі ўсе музеі ў Рэспубліцы Беларусь падзяляюцца на дзяржаўныя і прыватныя. Міністэрства адукацыі зацвярджае дакументы, якія рэгламентуюць дзейнасць музеяў устаноў адукацыі. Адпаведна будуць разглядацца пытанні ўнясення змяненняў і дапаўненняў у **Палажэнне аб музеі ўстановы адукацыі.**

На сённяшні дзень не вырашана пытанне прысваення лепшым музеям устаноў адукацыі ганаровага звання «народны». Яшчэ будуць распрацоўвацца дакументы па гэтым пытанні. З усіх музеяў рознай накіраванасці 63 народныя, узорныя па пытаннях даследчага пошуку, вывучэння і экспанавання музейных збораў.

Сярод народных музеяў устаноў адукацыі можна выдзеліць краязнаўчы музей Лоскай БШ Валожынскага раёна (кіраўнік Мікалай Іванавіч Вайцюлевіч), краязнаўчы музей Горскай СШ Горацкага раёна Магілёўскай вобласці (кіраўнік Ларыса Леанідаўна Міронычыкава), гісторыка-краязнаўчы музей Радуньскай СШ Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці (кіраўнік Іван Іванавіч Фесенка), гісторыка-этнаграфічны музей «Гісторыя Заронаўскага краю» Заронаўскай БШ Віцебскага раёна (кіраўнік Людміла Канстанцінаўна Нікіціна). У СШ № 3 г. Мёры Віцебскай вобласці працуе В. А. Ермалёнак, кіраўнік народнага гісторыка-краязнаўчага музея, кіраўнік гуртка «Арганаўты мінулага», сябра Цэнтральнага Савета Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі «Наш край», лаўрэат нацыянальнай прэміі «За духоўнае адраджэнне». Ён сваё імкненне да пошуку, да знаходак і даследаванняў перадае і дзецям. Музейная экспазіцыя школы змяшчае унікальныя экспанаты, якія выклікаюць цікавасць нават у гісторыкаў Нацыянальнай акадэміі навук. Вось такія краязнаўцы і павінны кіраваць музеямі, тады музеі будуць не існаваць, а «жыць».

Вялікая ўвага надаецца музейнай справе ва ўстановах адукацыі г. Мінска. Традыцыйнымі сталі агляды-конкурсы, якія дазваляюць выдзеліць лепшыя музеі для далейшай папулярызацыі іх дзейнасці і выкарыстання вопыту іх працы іншымі музеямі. У горадзе адкрываюцца новыя музеі і тыя, што былі на рэканструкцыі, якія сапраўды адпавядаюць сучасным патрабаванням вядзення музейнай справы. Ёсць і **праблемы.** Сёння вельмі востра стаіць праблема захаванасці экспанатаў, недахопу плошчаў для экспазіцый, **сродкаў** на іх афармленне і пераафармленне. Многія музеі патрабуюць перапрафіліравання. Незадавальняюча ажыццяўляецца заахвочванне педагогаў-кіраўнікоў школьных музеяў і інш.



*Фота Міколы ПІВАВАРА*

***Аляксандра КРАВЕЦ,***
***адказны сакратар Цэнтральнага Савета Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край»***





# Такія – неабходныя,

## або Пашанотнае слова пра Генадзя Кісялёва і не толькі пра яго



***Асабіста я, філолаг, проста не мог не вывучаць нашу гісторыю глыбей. Прыкладна з сярэдзіны 1960-х гадоў, з часу знаёмства, на гэта натхніў незабыўны Мікола Ермаловіч, пасля бліжэй далучыла жонка, калі завочна заканчвала гістфак БДУ (вучылася яна, а з ёй падвучваўся і я), а пазней хораша паўплываў Генадзь Кісялёў, з якім мы з дзесятак гадоў суседавалі і ў адным доме, і на адным паверсе. Паўнейшае вывучэнне гісторыі сталася не зусім падручнікавае, а з ужо засвоенага, перадуманага яркімі асобамі. Больш – будучы частым госцем у Кісялёва-суседа, меў спрыяльную магчымасць там бачыць і чуць Рагойшаў, Мальдзісаў, Караткевічаў, што было не толькі прыемна, але і карысна: дакранаўся да скарбніцы ведаў, выверанып сумленнем думак і поглядаў.***

Што Вы, Генадзь, такі ёсць, я, яшчэ студэнт, уведаў у першай палове 1960-х па Вашых публікацыях і кнігах, а таксама па расказах Р. Семашкевіча і М. Ермаловіча. Яны падкрэслівалі, што Вы – рускі, але нам такога русіча пашукаць ды пашукаць. Нарадзіліся ў 1931 г. у Каломне Маскоўскай вобласці, скончылі Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут, працуеце ў Вільні (1953–1956, 1960–1971), вывучылі літоўскую, польскую і беларускую мовы, сканцэнтраваліся на вывучэнні гісторыі, літаратуры XIX ст., у прыватнасці, дакопваецеся да спазнання аўтарства паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». З аднаго боку, быццам нічога незвычайнага ў гэтым няма, але з другога – усё ж высакародна абраная пазіцыя, як і ў тых выдатных рускіх даследчыкаў, якія раней, у XIX ст., не проста прысвяцілі сябе вывучэнню беларускай гісторыі, мовы і культуры, а падтрымлівалі наш люд духоўна, напаміналі, сцвярджалі, што ён – старажытны народ.

Пачаўшы ў 1971 г. працаваць у Інстытуце літаратуры АН Беларусі, Г. Кісялёў не толькі ўліўся ў калектыў даследчыкаў-літаратуразнаўцаў як аўтар грунтоўных даследаванняў-кніг «Сейбіты вечнага» (1963), «З думай пра Беларусь» (1966), «Загадка беларускай «Энеіды» (1971), а хутка выдзеліўся як адзін з самых дасведчаных і аўтарытэтных. Асабліва выдадзенай у 1977 г. унікальнай кнігай «Пачынальнікі», дзе фактычна ўпершыню поўна прадставіў разнастайныя матэрыялы пра шлях беларускага слова, аўтараў да абуджэння, да нацыянальнай свядомасці, да кніг на працягу ўсяго XIX ст. Там – і звесткі пра пісьменнікаў, этнографаў, разнастайныя дакументы, датычныя іхніх жыцця і творчасці, каментарыі, ілюстрацыі, бібліяграфія дакументальных публікацый за 1923–1976 гады, прысвечаных вывучэнню беларускай літаратуры XIX ст.

Наступныя кнігі «Пошукі імя» (1977), «Героі і музы» (1982), «Пуцявінамі Янкі Купалы» (1981), «З жыццяпісу Якуба Коласа» (1982), «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» (1988), «Адшукваецца класік...» (1988; Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Якуба Коласа за 1990 г.), «Ад Чачота да Багушэвіча» (1993), «Радаводнае дрэва» (1994) і іншыя яшчэ больш засведчылі яго настойлівыя архіўныя пошукі, пераканаўчасць высноў, умацавалі навуковую рэпутацыю.

У кнізе «Пачынальнікі» Г. Кісялёў апублікаваў знойдзены ў «Смоленском вестнике» за 1890 г. артыкул «Забытое произведение» публіцыста, гісторыка К.І. Равінскага (1862–1942), які сцвярджаў, што беларускую «Энеіду» напісаў яго дзед Вікенцій Паўлавіч Равінскі. Тады Г. Кісялёў на гэты конт выказаўся даволі асцярожна, зазначыўшы, што гэта «найбольш верагодна». Працягнуўшы пошукі і знайшоўшы новыя архіўныя доказы, пазней ён, як кажуць, узаконіў: так, аўтар нашай «Энеіды» – В.П. Равінскі. Так што ні адзін з першых беларускамоўных твораў XIX ст., ні яго аўтар не забытыя – зразумела, найперш намаганнямі Г. Кісялёва.

Шаноўны Генадзь Васільевіч, віншуем з 75-годдзем, жадаем здароўя, новых руплівасці, знаходак, радасці адкрыцця, публікацый і кніг!

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

# К.І. Равінскі, «Забыты твор»

**З кнігі Г. Кісялёва «Пачынальнікі»** *(скарочана)*

... «Энеіда» на смаленскай беларускай гаворцы была напісана Вікенціем Паўлавічам Равінскім і хоць ніколі не друкавалася[1], але хутка ў рукапісах разышлася па ўсёй губерні; нам і цяпер выпадала сустракаць старажылаў Смаленскай губерні, якія ведаюць твор В.П. на памяць; многія з іх выдатна яго чытаюць.

«Энеіда», пра якую ідзе размова, мае бясспрэчна вялікую этнаграфічную цікавасць, бо напісана на гаворцы племені, менш за ўсё даследаванага, на гаворцы, што прыкметна мяняецца пад уплывам шматлікіх фактараў, і цяпер некаторыя словы, што сустракаюцца ў «Энеідзе», ужываюцца народам хіба толькі ў глушыні Парэцкага ці Духаўшчынскага паветаў. Каб напісаць гэты твор, трэба было не толькі валодаць здольнасцю да вершаскладання, але неабходна было вывучыць мову, лад жыцця і звычкі нашага селяніна-беларуса, і трэба аддаць належнае назіральнасці аўтара. Кажуць, сяляне, якім ён чытаў сваю «Энеіду», паміралі са смеху і здзіўляліся, як гэта «пан» ведае так добра іхнюю мову і жыццё.

Апрача «Энеіды», В.П. напісаў некалькі вершаў, у якіх не без з'едлівасці апісвае дзівосы аджылага цяпер панства і розныя смешныя эпізоды з сучаснага яму памешчыцкага жыцця, усе гэтыя вершы пісаныя ad hoc[2] і таму хутка разыходзіліся па ўсіх памешчыцкіх сядзібах, дзе з прагай чыталіся. Але болей за іншыя нарабіла шуму напісаная ім камедыя «Брак поневоле», бо сюжэтам для гэтай камедыі паслужыў сапраўдны выпадак, што здарыўся ў Смаленскай губерні.

... Лічым патрэбным перад пераказам «Энеіды» на смаленскай гаворцы падаць кароткую біяграфію яе аўтара, чалавека вялікіх розуму і душы, які меў незвычайную павагу і любоў усіх, хто толькі яго ведаў.

Вікенцій Паўлавіч Равінскі нарадзіўся ў 1782 годзе[3] ў небагатых бацькоў і, атрымаўшы хатнюю адукацыю, у 18 гадоў паступіў унтэр-афіцэрам у Бранскі пяхотны полк і праз два гады стаў афіцэрам. Амаль увесь час знаходжання на вайсковай службе Вікенцій Паўлавіч правёў у бесперапынных паходах, паказаўшы сябе смелым і здольным афіцэрам, і прымаў асабісты ўдзел ва ўсіх бітвах 1805 года, 1807 года і векапомнага 1812 года, а таксама 1813 і 1814 гадоў. Асабліва вызначыўся В.П. у бітвах пры Шэнграбене, дзе ён прабіўся са сваёй ротай праз густыя калоны непрыяцеля, за што быў узнагароджаны ордэнам Св. Ганны 4-га класа; каля Смаленска, за што быў ушанаваны ордэнам Св. Уладзіміра 4-й ступені; каля Барадзіна, за што атрымаў залатую шпагу; за ўдзел у баі каля Малога Яраслаўца атрымаў ордэн Св. Ганны 2-й ступені. Уступіўшы з нашымі пераможнымі войскамі ў Парыж, В.П. заставаўся ў Францыі да самага канца акупацыі, а вярнуўшыся ў Расію, неўзабаве (у 1816 годзе) выйшаў у адстаўку ў чыне палкоўніка і пасяліўся ў сваім невялікім радавым маёнтку, у вёсачцы Дуброўцы Духаўшчынскага павета Смаленскай губерні.

Жыццё за мяжой як у час акупацыі Францыі, так і ў час паходаў, у Аўстрыі і Германіі, не прайшло бясследна для В.П.: ён не толькі вывучыў французскую і нямецкую мовы, якімі авалодаў дасканала, але пры кожным зручным выпадку намагаўся папаўняць свае веды і пры гэтым, апрача набыцця навуковых ведаў, стараўся вывучыць умовы грамадскага і дзяржаўнага жыцця Заходняй Еўропы, чаму спрыялі яго жывы, дапытлівы розум і назіральнасць...

... Маючы шмат вольнага часу, прысвячаў яго заняткам гісторыяй, па якой лічыўся знаўцам, і ўважліва сачыў за пачатым росквітам рускай літаратуры. У вёсцы ім былі напісаны ўсе творы і ў тым ліку «Энеіда...»

Вікенцій Паўлавіч памёр, маючы за 60 гадоў[4], і памяць пра яго як пра выдатнага чалавека захоўваецца дасюль у Смаленскай губерні[5].

***Пераклад з рускай Г.Д.***

---

[1] У сапраўднасці паэма (амаль увесь яе ўцалелы тэкст) друкавалася ў 1845 г. у часопісе «Маяк».

[2] Для дадзенага выпадку (лац.).

[3] У сапраўднасці В. П. Равінскі нарадзіўся ў 1786 г.

[4] В.П. Равінскі памёр у 1855 г.

[5] Пасля ўступнага артыкула публікаваўся тэкст паэмы пад назвай «Энеида» на белорусском наречии». Заканчэнне публікацыі – у «Смоленском вестнике», 28 студзеня 1890 г.

***Заўвагі Г. Кісялёва***

**P.S.** Згодна ўдакладнення Г. Кісялёва, сёлета В.П. Равінскаму спаўняецца 220 гадоў.

# Alis inserviendo consumor[1]

Іван Лашутка быў з тых людзей, пра якіх кажуць: «Хворы на Беларусь». І, як пазней успамінала ўдава Вера Уладзіміраўна, Іван Іосіфавіч вельмі перажываў, назіраючы, як сёння ганьбяць беларускую мову, зневажаюць яе. Вера Уладзіміраўна часам і папракала мужа за гэта. Маўляў, хай кожны сам выбірае, на якой мове яму размаўляць. Навошта прымушаць? А папракала, бо нельга было пісьменніку турбаваць і без таго хворае сэрца. Толькі, нягледзячы на свае хваробы, Іван Іосіфавіч не збіраўся выракацца перакананняў. Ён да апошняга моманту быў упэўнены, што адзінай дзяржаўнай мовай павінна быць беларуская. Вось што казаў пісьменнік у 2003 годзе:

*– Ва ўсіх народаў дзіця пазнае навакольны свет з дапамогай ласкавага матчынага слова. Расквечанай мелодыяй кахання, а пазней упрыгожаная песнямі майстроў-музыкаў родная мова ўваходзіць у душу і сэрца чалавека. І ў гэтым было, ёсць і будзе вялікае прызначэнне яе для любога народа. Занядбанне прыводзіць да бяспамяцтва і гібелі нацыі, як пэўнай супольнасці людзей на зямной прасторы. Вось чаму ва ўсім цывілізаваным свеце кожны народ і яго дзяржаўныя інстытуты абараняюць сваю мову.*

Іван Лашутка здолеў годна пражыць сваё жыццё. Не зламала яго нават вайна, успаміны ад якой рубцом засталіся на сэрцы. Падчас вайны на працу ў Нямеччыну быў вывезены яго брат Мікола. А перад самым вызваленнем нібыта за сувязь з партызанамі фашыстамі была схоплена яго сястра Лёля. Брат вярнуўся жывым. А вось сястру Іван Іосіфавіч больш ніколі не пабачыў. І толькі праз шмат гадоў стала вядома, што Лёлю разам з жыхарамі адной з вёсак спалілі немцы. Але дзе пахаваны яе прах – невядома і сёння. І. Лашутка напіша:

*Мне ёсць*
*што ў вайны спытаць:*
*Да гэтых дзён*
*шукаю я магілу –*
*Сястры маёй зямны грудок*
*пахілы,*
*Каб кветкі ёй*
*сабраныя аддаць.*

У 2000 і 2003 гадах выйшлі яго зборнікі вершаў «Край верасоў» і «Святло Слова». А колькі было прыкладзена сілаў і нерваў, каб кнігі з'явіліся на свет! І нават пасля выхаду апошняга зборніка яму даводзілася турбавацца, каб кнігу ўзялі на продаж у Вілейскую кнігарню.

Спрабаваў Іван Лашутка сябе і ў прозе. Ягоныя творы з'яўляліся на старонках літаратурных выданняў. Іван Іосіфавіч перад смерцю паспеў падрыхтаваць да друку кнігу прозы. Толькі яна так і засталася ў рукапісе. Не выпадае спадзявацца і сёння, што нехта паспрыяе выхаду кнігі.

Неяк Іван Лашутка на пытанне « Для чаго чалавек на свеце жыве?» адказаў: «Каб пакінуць добры след пасля сябе». Дык, я мяркую, што сам пісьменнік такі след пасля сябе пакінуў. Сваім словам ён змог абудзіць у сэрцах тысяч беларусаў любоў да сваёй Бацькаўшчыны.

### Даведка

Іван Іосіфавіч Лашутка нарадзіўся 10 лістапада 1933 года ў вёсцы Баяры Вілейскага раёна. Пачатковую школу заканчваў у родчых Баярах, а дзесяцігодку – у вёсцы Ілья. У гэты час у Вілейскай раённай газеце ўжо друкаваліся вершы Івана Лашуткі. Таму пасля школы яго адразу запрасілі на працу ў рэдакцыю палітаддзела Ільянскай МТС.

У 1953 годзе Іван Лашутка паступіў на філалагічны факультэт БДУ, які скончыў у 1958 годзе. Пасля вучобы быў размеркаваны на працу ў Вілейскі раён. Так ён апынуўся ў вёсцы Латыгаль.

У 1971 годзе Іван Іосіфавіч пераехаў у Вілейку, дзе уладкаваўся на працу ў аддзел народнай адукацыі. Амаль 20 гадоў напружанай школьнай працы прайшлі ў Вілейскай СШ № 3. Там паэт выкладаў беларускую мову і літаратуру. Адначасова з'яўляўся завучам школы па навучальнай частцы. Працуючы ў школе, не пераставаў пісаць. Друкаваўся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Настаўніцкай газеце».

У 1992 годзе свет пабачыў яго першы зборнік вершаў «Свята дваіх». У 1993 годзе гэты зборнік быў адзначаны прэміяй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне паэзіі. У 1996-м Іван Лашутка быў прыняты ў шэрагі сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У 2000 годзе выйшаў другі зборнік вершаў – «Край верасоў». Верш «Край мой верасовы» быў пакладзены на музыку, і песняй змог абляцець усю Беларусь і заваяваць сэрцы шматлікіх слухачоў.

У канцы 2003 года ў свет выйшла кніга Івана Лашуткі «Святло Слова».

1 верасня 2004 года Івана Лашуткі не стала.

... Адыйшоў на нябёсы ён у сімвалічны «настаўніцкі дзень».

***Сяргей МАКАРЭВІЧ,***
***студэнт журфака БДУ***

**Іван ЛАШУТКА**

### Я вершу свой лёс давяраю

*Я вершу свой лёс давяраю –*
*Мы вельмі любілі жыццё,*
*Ды лёс мой, як роднага краю, –*
*Палынны і ўласны асцём.*

*Даруй мне, мой краю вячысты,*
*Што на скрыжаванні дарог*
*Як колер твой*
*бела-прачысты*
*Для нашых дзяцей не збярог.*

*І мову Скарыны, Купалы*
*З бруіста-крынічнымі*
*«дзе...»*
*Сярод насланне і навалы*
*Пакінуў адну ў бядзе.*

*Так позна ідзе пакаянне*
*На Богам забытай зямлі.*
*...У вокнах світальнае ранне*
*Ці восень снягі замялі?..*

---

[1] Свецячы іншым, згараю (лац.)





## Сусветны дзядзінец

**1345.** Вялікім князем ВКЛ становіцца Альгерд, які за сваё кіраванне (па 1377 г.) пашырыў тэрыторыю дзяржавы ўдвая.

**1656.** У галандскім горадзе Харлем выйшаў першы нумар газеты, што выдаецца да гэтага часу. Яна лічыцца самым даўнім з існуючых сёння перыядычных выданняў.

**1775.** У Маскве на Балотнай плошчы страшэннай смерцю караюць Пугачова. Вядомы яго апошні выкрык: «Прости, народ православный!» У савецкі час Пугачоў лічыўся абаронцам прыгнечаных.

**1863.** Прэзідэнт ЗША А. Лінкольн напісаў адкрыты ліст у абарону адмены рабства. Цяпер гэты ліст самы дарагі ў свеце (кошт яго каля 800 тысяч даляраў).

**1878.** Вынаходнік А. Бел прадэманстраваў тэлефон англійскай каралеве Вікторыі. У 1880-м лонданская тэлефонная кампанія выпусціла першую ў свеце тэлефонную кнігу, дзе былі пазначаныя 255 абанентаў.

**1940.** На тэрыторыі ўз'яднаных БССР і Заходняй Беларусі ўтвараецца запаведнік «Белавежская пушча».

**1951.** Афіцыйна адкрываецца будынак ААН у Нью-Йорку.



*Навеянае...*

*Фота Наталлі ПАБІРУШКІ*

## Зямлю выратуе Месяц?

У маскоўскім друку мільганула звестка, што прыкладна з 2015 года на Месяцы пачне працаваць пастаянная расійская станцыя, а яшчэ праз 5 гадоў сюдытуды пачнуць курсіраваць іхнія караблі. І не проста лятаць для навуковага інтарэсу, а прывозіць адтуль гелій-3. Пару рэйсаў – і Зямля на год будзе сагрэтая. Але не ўсе вучоныя пацвярджаюць гэта: каб спальваць гелій-3, патрэбен звышмагутны рэактар, што павінен вытрымаць тэмпературу ў некалькі мільярдаў градусаў. А гэта, падкрэсліваюць песімісты, нерэальна зрабіць у бліжэйшыя сто гадоў. Лепш, зазначаюць яны, ацепліваціца не толькі нафтай, газам, уранам і іншым, але і чэрпаць энергію з вакуума. Па яго, як па гелій, не трэба пасылаць караблі на Месяц, а рабіць цеплаўстаноўкі тут, на Зямлі-матухне. Што ўжо і робіцца ў Расіі.



*Зімовую казку прашэпчуць сосны*

*Фота Ўладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

## Відавочнае – неверагоднае

*– **АФРЫКАНСКІЯ** антылопы-гну, якія блукаюць у спякоту ў пошуках вады, здольныя ўнюхаць дождж, што пачаў ісці за 100 км.*

*– **БЛЫХА** пры даўжыні ў 3 мм можа скочыць ажно на 30 см (гэта ў 100 разоў больш за іхні рост). Самы моцны і рухавы чалавек у даўжыню з месца можа скокнуць не больш за 3 м, а ў вышыню – на 70 см.*

*– **ЖУК-СКАКУН** мае сілу бегаць у 10 разоў хутчэй за чалавека. Гэтая насякоміна даўжынёй 14 мм за секунду прабягае каля 70 см. Калі б такую хуткасць мог развіць спрынтэр, то ён праімчаў бы стометроўку за 1 секунду.*

**Смех і грэх**

### Хітрун

*У нямецкую акупацыю ў вёску прыехалі карнікі, павыганялі гаспадароў з хат і сталі на пастой.*

*Была восень, сяляне туліліся па лазнях ці хлявах разам з жывёлай. А ў Валодзі немцаў няма. Суседзі да яго:*

*– Як табе так удалося?*

*– Ды заходзяць два немцы і пытаюцца: «Клёп ест?» А я ім: «Ой, паночкі, чыста заелі, хоць хату палі». І давай скрэбацца ўсюды.*

*«Гасцей» як ветрам здзьмула.*

***Запісана ад Елісея Бунты, в. Пагошча***

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВАЛАДКОВІЧЫ** (Валадкевічы) – шляхецкі род, які, мабыць, паходзіў ад Каспара Валадковіча, шляхціца Віленскага павета, сыны якога Марцін і Рыгор у 1567 г. давалі ў войска ВКЛ двух конных воінаў з маёнтка Гаранёны Ашмянскага павета. Марцін згадваецца і ў ліку шляхты Менскага павета.

Найбольш вызначыліся з роду Крыштоф (1600 ? – 1670), пісар земскі, ваявода наваградскі (1658), Марцін Казімір, гараднічы і падстароста менскі (1649). Яго нашчадкамі маглі быць Валадковічы, якія ў 2-й пал. XVII – XVIII стст. займалі розныя пасады ў Менскім павеце.

**ВАЛАТОЎКІ** – даўнія, у большасці так званыя доўгія, курганы – невысокія валападобныя земляныя насыпы, што лічацца пахавальнымі помнікамі крывічоў. Народныя паданні падкрэсліваюць, што ў іх пахаваны не звычайныя людзі, а волаты. Назва распаўсюджана на паўночных беларускіх землях і ў сумежных раёнах Пскоўшчыны, Смаленшчыны і Латвіі, дзе ў мінулым жылі крывічы. На Віцебшчыне валатоўкамі называюць і звычайныя могілкі.

**ВАЛАЧОБНІКІ** – (валачоннікі, лалоўнікі, ралёшнікі, лалыншчыкі, кукобнікі) – гурт мужчын (радзей жанчын), якія ў першы дзень Вялікадня з вечара і ўсю ноч абходзілі двары і спявалі пад вокнамі валачобныя песні (асобна гаспадару, гаспадыні, іх дарослым, яшчэ не сямейным дзецям). У валачобнікаў быў запеўны («пачынальнік», «шчынальнік»), падпявальнікі («памагальнікі», «падхватнікі»), музыкі (звычайна скрыпач, але мог быць і гарманіст ды бубеншчык) і механос, які збіраў і складваў у торбу валачобныя дары (фарбаваныя яйкі, вялікодныя булкі, сыр, сала і кілбасы, а таксама і невялікія грошы). У розных беларускіх мясцінах валачобны абрад выконваўся па-рознаму, але паступова страціў аграрна-магічны сэнс і набыў рысы вясёлай святочнай забавы. У асобных вёсках існуе і сёння, пераважна як тэатралізаванае прадстаўленне.

**ВАЛАЧОБНЫЯ (ВАЛАЧЭЎНЫЯ ПЕСНІ)** – від веснавых песень віншавальна-велічальнага характару, з якімі ад хаты да хаты хадзілі і яшчэ мясцінамі ходзяць валачобнікі. Паэтычны жанр вызначаецца прыстасаванасцю да земляробчага календара, узбуджанасцю, радасцю, ярка выяўляе нацыянальную беларускую народную паэзію і культуру. Узбуджэнне ідзе ад веснавога абуджэння зямлі, ад хуткай працы на ёй і спадзявання на новы значны ўраджай. Большасць валачобных песень скіравана да гаспадара, аратая і сейбіта, абладжвальніка свайго двара, таму да яго выяўлялася падкрэсленая пачцівасць («пане гаспадару», «слаўны муж над мужамі»). Валачобнікі стваралі яго яркі вобраз як руплівіца, разважлівага, клапатлівага пра сям'ю і спагаднага да іншых людзей чалавека – адпаведна, натхнялі яго сустрэць іх, зычліўцаў, ахвотна і шчодра. Калі ўсё адбывалася менавіта так, валачобнікі падказвалі яму розныя «цуды», у якія былі закладзены сялянская назіральнасць па кругавароце ў прыродзе, біялагічным цыкле раслін, па тэрмінах сяўбы. Зазначалася, што ў гэтым сэнсе вялікае значэнне маюць Благавешчанне (Звеставанне), Юр'е, Мікола, Іван (Купала) і інш.

У песнях да гаспадыні была хвала жаночаму, мацярынскаму пачатку. Яна ўслаўлялася як адданая і мудрая дарадчыца і памочніца мужу, усюды ўвішная працаўніца, клапатлівая маці. Зварот да незамужняй дачкі апяваў дзявочыя цнатлівасць і хараство, жадаў ёй спраўнага жаніха. Песні да нежанатага сына («паніча») жадалі яму хлапцоўскай адвагі, розуму, удаласці як у працоўнай, так і ў ратнай справе. Такім чынам, валачобныя песні мудрыя і гуманістычныя па змесце, выяўляюць шчодрасць і багацце народнай душы. Праца, побыт, пачуцці і думы хлебароба пададзены як высокадухоўныя праявы. Беларуская мова ў песнях пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі. Цесна сплеценыя старажытныя і сучасныя пласты і матывы, самы шырокі ўжытак мае імправізацыя, гіпербалізацыя, сімволіка. Хрысціянскі ўплыў на валачобныя песні нязначны, найчасцей толькі з упамінаннем Хрыста. Найбольш насычана і першародна валачобныя песні ўжываліся ў XV–XIX стст., а ў Заходняй Беларусі, дзе не ўхваляліся атэізм і адрачэнне ад народных традыцый, ажно да 1939 г.

Паводле музычнага зместу, валачобныя песні выконваліся сродкамі традыцыйнай каляндарнай песеннай сістэмы, хоць і маюць некаторае адрозненне ад калядных з-за ўскладненняў абходаў на каляды карнавалізаванага характару. Даследчыкі выявілі ў розных рэгіёнах Беларусі і апісалі 4 песенна-меладычныя тыпы валачобных песень, у якіх па-свойму вылучаюцца структуры вершаў, рытм выканання, мелодыя. У сучаснай вёсцы ў большасці ўсе названыя і іншыя адрозненні ў асноўным сумясціліся, абходы набылі жартоўна-гуллівы, тэатралізаваны сэнс, у выніку чаго калядныя і валачобныя песні зблізіліся.

**Грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры» выказвае спачуванне сябру Выканкама, дырэктару Мінскай абласной бібліятэкі імя А.С. Пушкіна Наталлі Станіславаўне Чуевай у сувязі з напаткалым яе горам – заўчасная смерцю МУЖА.**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г. Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары дасылаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 16.03.2006. Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.) Заказ 478. Тыраж 1560.